*Далучайцеся да руху эўрапейскага супраціву!*

# СЛОВА НАЦЫІ

№1 2000

Неяк давялося пачуць, як адзін відны апазыцыянер выказваў незадаволеньне мінулагоднім Маршам Свабоды: маўляў, па ўсіх каналах паказваюць толькі „камняпад". Карцінка, ці ж бачыш, не адпавядае вобразу дэмакратычнай апазыцыі. Можам згадзіцца, што вокны ў трамваях біць ня варта. Але ж калі глядзім па тэлевізары маршы пратэсту, якія адбываюцца з самых розных нагодаў па ўсім сьвеце — ад Швайцарыі да Канады, — дык таксама бачым сутычкі з паліцыяй. Бо людзі так выказваюць сваё незадавальненьне тады, калі няма іншых магчымасьцяў паўплываць на ўлады. Але ж гэткія мэтады апраўданыя, калі ёсьць ясная мэта, дзеля якой людзі выйшлі на вуліцу.

Ці ёсьць мэта ў нас? Кажуць, што змагаемся з дыктатурай. ***Супраць*** тыраніі. Але ***за*** што? Кажуць, за дэмакратыю. Але што такое дэмакратыя? Кожны будзе тлумачыць, як умее, пры гэтым, канечне, спасылаючыся на „ўвесь цывілізаваны сьвет" ды замежныя прыклады. Але ж як будзем жыць менавіта ***мы*** менавіта ***тут***? Кажуць, хочам у Эўропу. Але мы і так у Эўропе. Вось гэта мы павінны сабе сьцвердзіць: ***мы — тут.*** І мэта ў нас — быць самімі сабой. А ***якія мы?*** Вось аб гэтым мы і будзем пісаць у нашым выданьні. ***Эўропа тут*** — вось нашая тэма і нашая мэта.



# Прэцэдэнты

***23 сьнежня 1991 г.*** *У час сустрэчы Жырыноўскага зь менскімі прыхільнікамі яго пабілі і адабралі шапку (як пісалі ў газэтах, гэта зрабілі „деклассированные хулиганствующие элементы"). Пасьля таго без аховы Жырыноўскі не прыяжджаў.*

***25 сьнежня 1994 г.*** *Былі зьбітыя менскія прыхільнікі РНЕ і сарваная сустрэча зь лідэрамі расейскіх нацыянал-бальшавікоў Э.Лімонавым і А.Дугіным. Дасталося і групе „Красные звёзды", чый канцэрт меў адбыцца пасьля сустрэчы (кіраўнік групы нават абяцаў зьмяніць назву на „Погром"). РНЕ пасьля таго нейкі час у Менску не было чуваць.*

Хто ж любіць, калі да яго лезуць чужынцы? Як бачым, мэтады барацьбы зь імі старыя, як сьвет — біць у рыла. Што праўда, паўтараць варта часьцей, бо хутка забываюцца.

# Хрысьціяне, зважай!



Неяк Павел Севярынец публічна сказаў, што ён — хрысьціянін, толькі яшчэ вось ня вызначыўся з канфэсіяй. З такімі глыбокімі ўяўленьнямі аб хрысьціянстве Севярынец мае намер гуртаваць моладзь на агульнахрысьціянскай плятформе (ходзяць чуткі пра нейкі з'езд). Паседжаньні Маладога фронту апошнім часам сталі нагадваць сэктанцкія зборкі. Тым часам, пры жаданьні нават сатанізм у нейкім сэнсе таксама можна лічыць плыньню хрысьціянства. Як вынікае са здымку, ёсьць падставы меркаваць, што ўсё ж такі Севярынец ужо вызначыўся з „канфэсіяй".

# Даты

**24.III.1794** Пачалося паўстаньне супраць расейскай акупацыі пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі.

**15.III.1848** Венгерскі народ пачаў змаганьне за вызваленьне з-пад гнёту Габсбургскай імпэрыі. Увосень 1849 г. паўстаньне было задушана расейскімі войскамі пад камандаваньнем генэрала Паскевіча.

**21.III.1864** У Вільні на шыбеніцы пакараны сьмерцю Кастусь Каліноўскі, герой паўстаньня супраць Маскоўскага прыгнёту.

**3.III.1924** Выйшаў дэкрэт аб далучэньні да БССР 8-мі паветаў Віцебскай губэрні, 6 паветаў і некалькіх воласьцяў Гомельскай губэрні, Горацкага і часткі Мсьціслаўскага павету Смаленскай губэрні.

**16.III.1968** Атрад амэрыканскіх войскаў пад камандаваньнем лейтэнанта Колі ўварваўся ў в'етнамскую вёску Сангмі і зьнішчыў каля 500 жыхароў. У 1971 г. Колі быў засуджаны да пажыцьцёвага зьняволеньня „за парушэньне правілаў вядзеньня вайны", але праз нядоўгі час быў вызвалены па распараджэньні прэзыдэнта ЗША.

# Сустрэча зь людаедам

...Мае роздумы над жыцьцём у цягніку Варшава—Гайнаўка перарваў уваход у купэ новага пасажыра. Чалавек, расьсеўшыся побач акна, выцягнуў з сваёй сумкі нейкі клуначак. Разьвярцеў яго і выняў ладнаваты кавалак мяса з лустай хлеба.

— Пакаштуеце? — працягнуў і мне.

— Не, дзякую. Гэта што? Сьвініна?

— А дзе там! І не сьвініна, і не ялавічына, і не дзічына. Гэта — палячына. Наш бельскі дэлікатэс.

Быццам у пацьвярджэньне тых словаў у ягоных вуснах пачало нешта цокаць і пшэкаць.

— І што, добрае мяса?!

— Ведама ж, добрае. З малых гадоў спажываю і, дзякуй Богу, ніколі не хварэў. Помню, яшчэ ў дзетсадзе быў у мяне сябрук — Франак. Кругленькі такі, поўненькі. Бывала, гуляем із ім, а мне ў вачох стаіць ня Франак, а адбіўная катлета. У рэшце рэшт, завёў я Франака ў адно спакойнае месца, і з таго ўсё пачалося. Шукалі потым яго суседзі, міліцыя, войска — усё дарэмна. Цяжкія тады часы былі — пахадзіць трэба было добра, каб пад'есьці палячыны. Гэта цяпер абы толькі захацеў, каго хочаш выбірай — Казіка, Стася, Ёлю. Асабліва ў нас у Бельску. Во час настаў — морам не плылі, а ў Амэрыку папалі...

З тэй пары, бываючы ў Бельску, заўсёды стараюся адазвацца хоць якім беларускім словам. Бо ня самы лепшы канец жыцьця — ў жываце нейкага пражэрлівага земляка.

# Дзіцячыя гульні

...Мы ня можам гвалтам прымушаць дзяцей гаварыць толькі па-беларуску...
*Зь інтэрвію дырэктара Беларускага ліцэя* Нашай Ніве.

1938—39 навучальны год у Шаркоўшчыне. Праваслаўная рэлігія была адзіным прадметам, на ўроках якога гаварылі па-свойму, па-беларуску. Калі бацюшку замяніла ягоная дачка, стала весьці па-польску. Увесь клас змовіўся, каб надалей адказваць па-беларуску. Адзін хлапец зламаўся, і адказаў па-польску. Пасля ўроку аднаклясьнікі кінулі яго вобзем і прайшліся па ім, адзін за адным. Праз паўгода хлопец ад гэтага памёр. Вось у такія гульні гулялі дванаццацігадовыя дзеткі.

# Беларусафобія

Зь беларусафобіяй трэба змагацца — гэта беларусы мусяць разумець ясна і цьвёрда. Мы павінны ўсьведамляць безумоўную патрэбу і неабходнасьць самааховы Беларусі і беларускага этнасу ад разбуральнай дзейнасьці варожых яе натуральнаму разьвіцьцю сілаў.

Беларусафобія — адмаўленьне, варожасьць, нянавісьць да беларускага этнасу, беларускага слова, Беларусі і вынікаючая з гэтага антыбеларуская дзейнасьць носьбітаў у яе актыўных і пасыўных формах.

У адных беларусафобаў беларускасьць выклікае балючую алергічную рэакцыю, каторая і ёсьць непасрэдны пабуджальнік беларусафобіі. Каб яе нэўтралізаваць, трэба карэнна рэфармаваць мэнталітэт яе носьбітаў, што малярэальна, таму практычная мэта — нэўтралізаваць іхную нэгатыўную дзейнасьць.

Для іншых беларусафобія — выбар духоўна няўстойлівых, павярхоўна-эгаістычных істотаў, якія дзеля задаволеньня сваіх псыхафізычных патрэбаў зафарбаваліся пад беларусафобаў, бо менавіта гэтая маска ў канкрэтных грамадзка-палітычных умовах прыносіць ім больш выгады. Выкараненьне такой беларусафобіі патрабуе наступнага: зьвяржэньня антыбеларускага рэжыму, які спарадзіў і падтрымлівае беларусафобію, стварэньне беларускага ладу, пры якім выгадна быць нармальным лаяльным грамадзянінам беларускай дзяржавы, у тым ліку і ў пабытовым пляне. Прычым зьмены пад уплывам сацыяльна-палітычных абставінаў павінны замацоўвацца духоўна-культурнай загартоўкай, тады з рыхлых камякоў руды цяперашняга грамадзтва на Беларусі выплавіцца гартаваная сталь зьяднанай беларускай нацыі.

Асыміляцыя і калянізацыя з боку Расеі і Польшчы сталі прычынаю зьмяшчэньня, разломаў у этнічным полі. Этнічнае поле — гэта тая нябачная энэргія, якая робіць масу людзей ня проста антрапалягічна роднасным насельніцтвам, але лучыць унутрана, творыць духоўна і псыхічна падобнымі людзьмі, якія і будуць народам, этнасам. Практычна гэтыя разбуральныя іншародныя ўзьдзеяньні — разломы этнічнага поля і прыгнёт — выявіліся ў псыхафізычнай дэградацыі беларускага этнасу: вырачэньне беларушчыны і сваіх каранёў, страшны росквіт п'янства, хамства, паталёгіі, выміраньне, пераварот кіраўніцтва ў ворагаў Беларусі. Ня менш жахлівы ўплыў гэтых зьмяшчэньняў этнічнага поля на саму Беларусь: вынішчэньне прыроды, экалягічныя катастрофы як спосаб антыбеларускай дзейнасьці — шкодніцкая мэліярацыя, забруджваньне вады, паветра, глебы, Чарнобыль, выморваньне расьлін і жывёлаў.

Дзьве вельмі істотныя праблемы, без разгляду якіх немагчыма пасьпяховае змаганьне з расейскім шавінізмам. Гэта „богоизбранность и чудосвятость русского народа" і „являются ли русские славянами?". Вось расейцы ў Беларусі назвалі сваю групоўку „Славянский Собор „Белая Русь"". Разьбярэмся, што тут да чаго.

Расейскі літаратуразнавец і гісторык, адзін зь вядучых супрацоўнікаў часопіса „Наш современник" Вадим Кожинов кажа: *„Я вовсе не считаю, что славянские народы, живущие западнее границ нашей страны или бывших западных границ, имеют единую судьбу с Россией. Я вообще не думаю, что русский народ является по своей внутренней сути собственно и „славянским". Даже с точки зрения антропологической (слишком он разбавлен тюркскими и финскими влияниями) в нем очень мало славянского, не говоря уже об исторической судьбе. Уж если давать какое-то определение, я бы причислил себя к „евразийцам". К ним принадлежали князь Н.С. Трубецкой, который более известен как гениальный филолог, признанный во всем мире и в нашей стране, выдающийся историк Г.В. Вернадский... В основе их учения заветы Константина Леонтьева, Тютчева, Достоевского".*

А на думку расейскага навукоўца Л. Ґумілёва, расейцы — вынік гібрыдызацыі рэцэсіўнага (падаўленага) славянскага дамешка з фіна-цюрка-мангольскімі этнасамі з часткова славянскаю моваю (у асноўным пад уплы-



вам царкоўнаславянскай), якая цяпер імкліва насычаецца інтэрлексыкай, усё больш страчваючы славянскія рысы.

Дык якія ж расейцы славяне, калі ў расейцаў „очень мало славянского" і яны „евразийцы", і гэта кажуць і прызнаюць „выдающиеся российские ученые и деятели"? Ня будзем сарамліва ці баязьліва маўчаць, як дурнаватыя зламкі, расейцы нават не славяне, яны — „эўразіяты", і ня трэба хлусьлівых і сьлязьлівых „исповедей" пра „славянское триединство". Чым далей імчыць час, тым усё больш яны становяцца эўразійцамі з сваім культурна-псыхічным і антрапалягічным тыпам, у іх свой шлях, свой лёс. А беларусы ўзьніклі як этнагенэтычны сынтэз славянаў з балцкімі плямёнамі, стаўшы славянскім этнасам арыйскага (інда-эўрапейскага) тыпу з сваім непаўторным абліччам. У гэтым наша адметнасьць, бо мы не мяшаліся ў значных памерах зь няроднаснымі, неарыйскімі этнасамі. Гэта яшчэ адна важная прычына, што беларускі нацыянальны рух мусіць перамагчы, бо безь беларусаў *Белы Сьвет* будзе непаўнавартасным.

Цяпер пабачым, што там за „богоугодность и чудосвятость русского народа".

„Советская Белоруссия", 1.02.94 г., В. Акулов: *„...не понимает одной чрезвычайно важной особенности русского национального сознания, отличающей его от „европейского", а именно: русский человек никогда не ощущал себя завоевателем на землях, которые он присоединил к империи или (это случалось чаще) которые сами добровольно, иногда после многократных просьб, присоединялись к ней. Эту особенность характера и национального самосознания русского человека опять-таки прекрасно выразил Иван Солоневич. Вот что он пишет, сравнивая „русскую доминанту" с „европейской": „На базе Римской Империи ее организаторы разбогатели неслыханно. На базе Великой Империи создали свои чудовищные состояния и лорды, и леди, и банкиры, и судовладельцы. На базе Империи Российской никто из русских не заработал ничего: ни в Сибири, ни на Кавказе, ни в Финляндии, ни в Польше. Для русского мужика не было отнято ни одного клочка земли: ни от финнов, ни от поляков, ни от грузин..." Прав Солоневич или не прав? Безусловно, прав".*

Ілгуць. *„Еще в 1859 г. Генерал Евдокимов изгнал тех черкесов, что издавна жили в междуречьи Лабы и Белой, чем вынудил их переселиться в Турцию, в 1860 г. Туда же были выдалены со своей земли абхазы, та же печальная участь постигла спустя год шапсугов. Уже к 1864 г. Северо-Западный Кавказ почти лишился своего прежнего коренного населения и только одних черкесов было депортировано полтора миллиона, а на их просторах появилось около 100 станиц для казаков. И стынет кровь в жилах, когда даже в тенденциозной работе официального российского историка Кавказской войны А. Берже читаем: „И действительно, чье сердце не содрогнулось бы при виде, например, молодой черкешенки, в рубище, лежавшей на сырой земле под открытым небом с двумя малютками, из которых один в предсмертных корчах боролся за жизнь, в то время как другой искал утоления голода у груди уже окоченевшего трупа своей матери. А подобных сцен встречалось много". Так огнем и мечом, кровью и слезами создавался в Российской империи один из многочисленных прецедентов для последующего геноцида СССР по отношению к немцам Поволжья, крымским татарам и кавказским горцам"* („Новое русское слово", 1974 г., Ню Ёрк). А калянізацыя Ўралу, Сібіры, Далёкага Ўсходу і Поўначы, прырода якіх пачварна зрабаваная і распрададзеная, а народы выміраюць? Расея захоплівала найперш тыя землі, якія маглі быць важнай крыніцай даходаў. Сувораў за падаўленьне вызваленчага паўстаньня ў Польшчы і Беларусі атрымаў не „клочок земли", а вялізныя беларускія і ўкраінскія абшары з 15 тысячамі „душ" (70 тысяч чалавек) свабодных людзей, запрыгоненых на 70 гадоў у расейскае ярмо. Пра наплыў „истинно русских людей" на Беларусь пасьля ўдушэньня паўстаньня 1863—1864 гадоў можна прачытаць, напрыклад, у „Западноруссизме" А. Цьвікевіча і „Почему мы не стали русскими?" Сяргей Дубаўца. „Не зарабатывали ничего" толькі тыя, хто ўсё прапіваў.

Наконт вызначэньня І. Саланевічам поведу „империя", зь якім згодны і В. Акулов: „Империя есть сообщество народов, уживающихся вместе. Это есть школа воспитания человеческих чувств, так слабо представленных в человеческой истории. Это есть общность. Это есть отсутствие границ, таможен, перегородок, провинциализма, феодальных войн и феодальной психологии..." Дапусьцім, што Саланевіч мае рацыю, але чаму ж тады расейскія шавіністы лямантуюць пра небясьпеку „мондиалистов", „всемирный сионо-масонский заговор", якія маюць за мэту якраз аб'яднаць людзкую супольнасьць у супэрімпэрыі — „Империя Земля", у якой будзе тое ж „отсутствие границ, таможен, перегородок..."? Відаць, баяцца, што ў гэтай імпэрыі панаваць будуць ня „истинно русские люди", яны мараць толькі пра такую „общность", дзе „править будут русские господа, которым недоразвитые инородцы будут лизать сапоги" (з выступу вядомага „сына юриста" Жырыноўскага).

Існуе шчэ адна спэцыфічная плынь беларусафобіі, зь якой антыбеларуская дзейнасьць адбываецца ў прыхаваных формах і не адразу заўважная. Касмапалітызм, „общечеловеки". Сама зьява касмапалітызму, яго паходжаньне і характарыстыка патрабуюць асобнага аналізу, бо маюць плянэтарныя маштабы і ёсьць складанай навуковай і геапалітычнай праблемай. Цяпер жа зазначым датычнае разгляданай тэмы.

„Вэстэрнізацыя" (як і другія зьявы, накшталт „сьвядомасьці Крышны", дыянэтыкі і да т.п.) памяншае, разбівае агульную масу антыбеларускіх сілаў на рознаскіраваныя, нават варожыя адзін аднаму плыні, таму прыносіла пэўную тактычную карысьць, да той пары, пакуль не пранікла ў беларускае грамадства. Цяпер „вэстэрнізацыя" ўяўляе сабой аграмадную пагрозу і шкоду. Але беларускі рух павінен выкарыстоўваць гнуткую тактыку ў дачыненьні да касмапалітызму, улічваючы стратэгічныя інтарэсы Беларусі. У будучыні небясьпека касмапалітызацыі псыхафізычнаму здароўю беларускага народа ліквідуецца шляхам дзяржаўнага ўпарадкаваньня і канкурэнтаздольнасьці беларускай культуры, г. зн. яна мусіць лепш задавольваць і фармаваць духоўна-культурныя запатрабаваньні грамадзянаў.

Адзін з асноўных мэтадаў беларусафобаў — стварэньне мітаў. „Маленькая беззащитная Беларусь", „необеспеченная ресурсами республика", „талерантны, церпялівы беларускі народ" і шчэ доўгі шэраг эпітэтаў зь міталягічнага набору, які падрывае веру беларусаў у сваю краіну, уласную будучыню і здольнасьць жыць. Аднак ніхто ня шкодзіць справе «яднаньня славянаў» больш, чым самі расейцы: сваім нездаровым ладам жыцьця і пабытовымі звычкамі, сваім амаль паталягічным чалавеканенавісьніцтвам і паўсюднымі крууцельствам і лайдацтвам — усім тым, што абумоўлівае цяперашні ўбогі стан Расеі і што робіць пакутай самое існаваньне ў такой краіне. І менавіта ў гэтую краіну нашы кіраўнікі езьдзяць на паклон, як каліс маскоўскія князі ў Арду! Якая ганьба для нас!

Што ж, мы мусім вытрываць гэтую ганьбу. Каб здабыць вартую будучыню, трэба цьвярозасьці ў думцы і нязломнасьці ў барацьбе. Галоўнае — захаваць тыя нацыянальныя рысы, якія адрозьніваюць *нас* ад *іх*, і найперш працавітасьць, жаданьне працаваць ад ранку да ночы. Тады надыйдзе час, і скончыцца гэтае вар'яцтва. Беларусь выжыве і зазьзяе ў славе і шчасьці.

## „Дэмакраты"

## Ведай ворага ў твар



# Вырачэньне чужога імя

...Імя—прыкмета Культуры. Безыменнасьць — праява прыроды. Імя —знак, бо нешта азначае, а значыць, парадкуе хаос безыменнасьці. Чалавек, нараджаючыся на сьвет, быў чужынцам да тае пары, пакуль не зьдзяйсьняўся абрад наданьня імя, абрад далучэньня да чалавечай супольнасьці. Бязглуздасьць і сваволя сучасных бацькоў, зь якой яны даюць імёны („бо прыгожае") сваім дзеткам, ня мае нічога агульнага з гэтым абрадам, бо імя праграмуе жыцьцё, бо слова мае рэальную сілу. Гляньце ў люстра і назавіце сябе іншым імем — вам зробіцца непамысна. Вашае імя ўжо даўна жыве ў крыві, яно — вашая неад'емная частка. І тыя, хто мяняў свае імёны на чужыя, рана ці позна ўсё адно рабіліся Абрамамі ці Ізямі, калі ж не, дык усё жыцьцё не маглі пазбавіцца ўнутраных разьдзёраў.

## Мне ня шкода свойскага быдла — ваўчынымі ікламі паўстане *КРЫЎЯ*.

Абрад наданьня імя адметны тым, што той, каму яно надаецца, не прымае ў гэтым ніякога ўдзелу. У чалавечым выпадку гэта робяць бацькі (раючыся з зоркамі, небам, Багамі), у выпадку з народамі — таксама бацькі, але імёны гэтых Бацькоў губляюцца ў бездані мітаў.

Большасьць эўрапейскіх народаў атрымалі свае імёны ўжо ў часы позьняе Антычнасьці ці раньняга Сярэднявечча. Узрост народа, як найменей, супадае з узростам імя, і таму ўсе эўрапейскія народы, апроч беларусаў, маюць уласную Гісторыю, а ня вартыя жалю кавалачкі.

Нейкія там „беларусцы" зьявіліся толькі ў XVII ст. А што было раней, калі ўжо стагодзьдзямі існавалі летувісы і палякі, французы ды ангельцы? Ваяры Канстанціна Астроскага ці Вітаўта, прынамсі, натаўклі б вам у бакі за бязглузьдзіцу накшталт „ВКЛ — першая беларуская дзяржава", палічыўшы гэта абразай сваёй айчыны. А за „Полацкае княства як першую беларускую дзяржаву" крывіцкія жрацы папросту прынесьлі б вас у ахвяру.

Акрамя ўзросту, кожнае імя нясе ў сабе пэўны сэнс, і ня ўсім народам пашчасьціла разгадаць яго. Усё ж сіла, закладзеная ў ім, спрацоўвае. Вось французы ўжо па свайму імю — „вольныя", ці германцы, якіх вядзе праз стагодзьдзі магутны бог вайны *Ermin*, ці швэдам, якія паводле назвы папросту „сваякі, свой народ". Мы ж — „Белыя Русы". І можна бясконца тлумачыць сэнс таго колеру („вольны", „хрышчоны" ці які яшчэ), але „Русы" ня стануць кельтамі ці прусамі. Маларосы своечасова зразумелі небясьпеку падобнага кораня і прыклалі намаганьні, каб стацца „ўкраінцамі". Што з таго, што жывуць на „ўкраіне", калі гэта ўскраіна Эўропы?

Найменьне Белая Русь доўгі час мусолілася недзе на абшарах Паўночна-Ўсходняй Расеі, а потым пачало пакрыху насоўвацца на Падзьвіньне ды Падняпроўе. Адзначым таксама, што якраз з моманту, калі на нашай зямлі зьявіліся „беларусы", пачалася эпоха маскоўскай беспакаранасьці на гэтых абшарах, якая ня скончылася і цяпер.

Імя — гэта характар, гэта адметнасьць і стыль. Паглядзіце: адзіная адметнасьць на сёньня — унікальны, нават па сусьветных памерах, фальклёр, яшчэ не дабіты „Палацамі" і „Харошкамі". Той фальклёр, што дастаўся нам у спадчыну з Крывіцкае эпохі. Эпохі мужнасьці і сапраўднае незалежнасьці. Імя, падоранае вярхоўным жрацом Крывэ-Крывайцісам, лучыла нашых продкаў зь небам, давала ім сілу (а не „талерантнасьць") ня здраджваць самім сабе, бараніць Радзіму. І Ўсяслаў Чарадзей ня мог быць „беларусцам", бо быў героем. Вацлаў Ластоўскі ня быў рамантыкам і летуценьнікам, калі ўсьвядоміў сябе крывічом. Зьзяньне праўдзівай сілы прыцягвае моцных, прыцемкі немачы — слабых. І было б цікава паглядзець, як прагнуў бы „інтэграцыі" з рускім народам народ не беларускі, а крывіцкі. Нашыя адвечныя суседзі летувісы й латышы яшчэ ня кінулі сваёй надзеі ўбачыць *той* народ, упарта называючы нас сёньняшніх ці то *krievai*, ці то *krive*, але „беларусам" гэтага ўжо, напэўна, ня трэба. Патрэбна мне. Я ня прагну новага імя, хачу вярнуць адвечнае і быць вартым яго. *Крывіч.*

Стоячы за сьпінамі нягеглых „адраджэнцаў", я праглядаю іхнюю прэсу. На апошняй старонцы маленькія палахлівыя зацемкі пра неверагодную колькасьць ваўкоў на Бела-рускіх абшарах. Я ўсьміхаюся сам сабе. Гэта цень Усяслава. Мне ня шкода свойскага быдла — ваўчынымі ікламі паўстане ***Крыўя.***

# Тэхналёгіі палітычнага ґвалту



Выбарчая кампанія ў Расеі прадэманстравала, якога эфэкту можна дасягнуць пры дапамозе мэтодык уплыву на сьвядомасьць народу. Пашыраюцца ўсё больш вытанчаныя спосабы псыхічнага ўзьдзеяньня. Спэцыялісты завуць іх палітычнымі тэхналёгіямі, а нам нішто не замінае назваць гэта тэхналёгіямі падману людзей.

У той жа Расеі на гэтай ніве шчыруе не адна структура, чыёй задачай ёсьць, згодна зь іхнай лексыкай, „рабіць кліенту морду" — ствараць яму прывабны імідж і пазытыўныя асацыяцыі зь яго імем, калі над „кліентам працуюць палітолягі, псыхолягі, сьпічрайтэры (пішуць прамовы), крэатыўнікі (выдумляюць трапныя рэклямныя слоганы), ды мноства іншых.

Разам з тым існуюць і буйныя інфармацыйна-аналітычныя цэнтры, у спэктар увагі якіх уваходзіць уплыў праз рэйтынгавыя суадносіны (калі праз ліпавыя рэйтынгі адбываецца ўнушэнне пэрспэктыўнасьці/непэрспэктыўнасьці палітычных сілаў) ды стварэньне агульнага інфармацыйнага фону ў СМІ (станоўчага ці адмоўнага). Такім чынам забясьпечвалася перавага праўрадавых груповак у расійскім парляманце, а таксама цяпер падтрымліваюцца сымпатыі ў грамадзтве да Пуціна.

Тым часам істотна пашыраецца выкарыстаньне тэхналогіяў г.зв. нэйралінгвістычнага праграмаваньня (НЛП) пры ўзьдзеяньнях на масавую сьвядомасьць. НЛП-мэтады заснаваныя на алгарытме ўнушэньня, калі ўплыў ідзе непасрэдна ў падсьвядомы слой мысьленьня праз адпаведныя вобразныя, колеравыя, слоўныя, гукавыя, асацыятыўныя спалучэньні. Уся НЛП-тэхналёгія ўгрунтаваная ў веданьне законаў палітычнай псыхалёгіі.

Такія сродкі сталі ўжо амаль што традыцыйнымі ў палітычным жыцьці „заходніх дэмакратыяў", а найперш, вядома, у заканадаўцы ў такіх справах — ЗША. Тое, што было пасьпяхова ўкарэненае ў амэрыканскім „плавільным катле" нацыяў і культураў, цяпер перасаджваецца на нацыянальныя грунты па ўсім сьвеце. Пры гэтым падаўляюцца нацыянальныя архетыпы — мэтанакіравана падаўляюцца „агульначалавечымі" падыходамі, калі белыя і чорныя зьмешваюцца ў адну шэрую масу. І вось што з гэтага атрымліваецца: калі ў войску ЗША праводзілі тэст на IQ (інтэлектуальнае разьвіцьцё), дык высьветлілася, што 44% белых і 83% „афраамэрыканскіх" ваякаў маюць узровень 12-гадовых дзяцей і ніжэй. Магчыма, для амэрыканскіх вайскоўцаў большага і не патрабуецца, але ж гэты факт паказвае вынік існаваньня ва ўмовах амэрыканскай цывілізацыі і сьледзтва, зь якога выходзіць „палітычныя тэхнолягі" ў карыстаньні сваіх мэтадаў уплыву.

Менавіта публіка з такім інтэлектуальным разьвіцьцём замацоўваецца цяпер у якасьці прататыпу „дэмакратычнага выбаршчыка". Найлепшы эфэкт „паліттэхналёгіі" маюць сярод дэгенэратаў амэрыканскага ўзору. Бясспрэчна, гэтак лягчэй маніпуляваць масавай сьвядомасьцю і выдаваць сваю думку за меркаваньне народу. Гэта — самы сапраўдны ґвалт над чалавечай псыхікай, які мае на мэце праз купку тэхнолягаў даць купцы палітыкаў вырашаць лёсы цэлых народаў.

Ёсьць меркаваньне, што найстрашней для беларускай апазыцыі будзе, калі Лукашэнка раптам дасьць ёй магчымасьць вольна выступаць у эфіры, — ня будзе чаго сказаць шырокім народным масам. Няўменьне здабыць падтрымку ў народзе апазыцыя хоча кампэнсаваць інфармацыйна-палітычнымі тэхналогіямі.

Праамэрыканская апазыцыя ў Беларусі ўжо колькі апошніх год вылучае з сваіх і так рэдкіх шэрагаў інстытуцыі, якія пры чаканай зьмене ўлады маюць бöць пакліканыя фармаваць грамадскую думку адпаведнымі спосабамі. Напрыклад, ёсьць такая Беларуская асацыяцыя фабрыкаў думкі (БАФД). Надзіва шчырая назва, ці ня так? А яшчэ ёсьць з той жа опэры Інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў, Цэнтар палітычных тэхналёгіяў, Цэнтар дасьледаваньня будучыні, Нацыянальны цэнтар стратэгічных ініцыятываў „Усход-Захад" і г.д.

Апазыцыйныя аналітыкі нават бяруцца сьцьвярджаць аб „адсутнасьці ў рэальнай Беларусі паўнавартага масіву нацыянальных традыцыяў, якія звычайна з'яўляюцца аб'ектам абароны і зацвярджэньня" (палітоляг В.Чарноў (былы палкоўнік-палітрук), часопіс „Грамадзянская альтэрнатыва"). Геніяльная лёгіка: няма традыцыяў — дык зараз мы сваімі тэхналёгіямі накрэсьлім і сьвядомасьць, і мэнталітэт, і сьветагляд, і новыя традыцыі нацыі... А для гэтага найлепш падыйдуць людзі зь інтэлектам 12-гадовых дзяцей. Зрэшты, каб сьцьвярджаць, што традыцыяў няма, для гэтых тэхнолагаў цалкам дастаткова іх проста ня ведаць. А калі што і ёсьць, дык „напачатку трэба разбурыць (...), а затым зацьвердзіць нацыянальна-дэмакратычныя прынцыпы, каб потым іх кансэрваваць, абараняць і разьвіваць" (тамсама). Відавочна, калі таварышч Чарноў так проста на гэта глядзіць, дык значыць, ён або зусім не знаёмы зь велізарным пластом беларускіх сьветаглядных традыцыяў, або разглядае традыцыйныя каштоўнасьці толькі як перашкоду на шляху да ўсталяваньня касмапалітычнага ладу паўсюднай шэрасьці.

„Дэмакратычныя" казкі пра павагу да асобы і яе правоў мала стасуюцца з рэальнай пагардай да натуральных нацыянальных адрозьненьняў паміж людзьмі ды зь імкненьнем падагнаць усё чалавецтва пад адзін касмапалітычны ўзор. Гэтыя казкі — толькі прыкрыцьцё для імкненьня ўзьвесьці на месцы зруйнаваных сьвятыняў свае цыклапічныя хімэры.

# Двоечнікі падаюцца ў вырай

Актывістка Маладога Фронту Натальля Макавік шукае студэнтаў, адлічаных з ВНУ па палітычных матывах, каб перапраравіць іх на вучобу ў Чэхію. Сама Макавік ужо адлічаная з унівэрсытэту за тое, што тры месяцы не наведвала заняткаў — кажа, што па хваробе. Калі месяцамі не хадзіць на заняткі, дык і ў Чэхіі многаму не навучысься.

Урэшце, дарога „туды" ўжо пракладзеная. Вось Ясь Абадоўскі — ня дужа пасьпяхова вучыўся на будаўнічым факультэце Магілёўскага ўнівэрсытэту — ужо даўно там. Але і ў Польшчы быў адлічаны з унівэрсытэту, бо ня здолеў здаць ніводнае сэсіі. Уладзь Антонаў — ляжаў у Навінках. Выйшаўшы адтуль, пайшоў з Вадзімам Карцавым (мэнэджэрам камунікацыйнага аддзелу МФ, дзе сам Антонаў адказваў за спорт), і размаляваў сьцены да 29.7.99. Турма яму пагражала менш, чым Карцаву, але ён запатрабаваў ад кіраўнікоў МФ забясьпечыць яму ад'езд у эміграцыю. Там спадзяецца атрымаць статус палітвыгнанца зь Беларусі, хоць і з'яўляецца грамадзянінам Расеі.

У нашым выданьні мы будзем і надалей уважліва адсочваць жыцьцё „Маладога адраджэньня".

# Ня слухай чужое!

*Надзвычай палітызаваным мастацтвам сталася музыка ў наш час — час змаганьня за нацыянальную саматоеснасьць. Кожны, хто хоць нешта пяе на белмове, многімі ўспрымаецца як выратавальная выспа сярод чужынскага мора. Тусоўка, званая „беларускай музычнай альтэрнатывай", уяўляе зь сябе якраз выспу, ці, дакладней, рэзэрвацыю, у якой той-сёй зьяўляецца музыкам, другі — трохі ўмее гаварыць па-беларуску, а некаторыя лічаць сябе „альтэрнатывай". Патрабаваньні ў той тусоўцы мінімальныя: хоць бы на „траяк" ведаць мову ды трываць* political correctness. *Трохі трэба граць, скажам, на гітары ды трохі сьпяваць — пра талент размова ня йдзе. Ва ўмовах сьмяротнай барацьбы зь нялюдзкай дыктатурай не да такіх дробязяў. Канечне, кожны грае, як умее, але ці будзем* **мы** *гэта слухаць? Давайце паглядзім.*

**Deviation.** Гарадзенскія квазіпанкі з анархісцкім ухілам. У музыцы адчуваецца нейкая адвечная незадаволенасьць, а нават заклапочанасьць хлапцоў. Калі мы ўявім, што раптам некуды зьнік *Лысы Цыган* і КГБ, то нашыя музыкі будуць зноў на барыкадах — пратэстуючы супраць сытых буржуяў, тупога беларускага кансэрватызму ды заклікаючы да культурна-сэксуальнай рэвалюцыі. Гурт абраў даволі красамоўную назву для свайго альбому — „Х.й вам, або таталітарызм ня пройдзе". А вось выраз лідэра — Стаса Пачобута — на канцэрце „Раздавім фашысцкую гадзіну", з нагоды падзеяў 17 кастрычніка: „Кожны камень — гэта х.й у ср.ку дыктатуры!" Нам невядома, ці спыняў хто хоць якую дыктатуру з дапамогай п'янога мату, але ўжо раз альтэрнатыва, дык што тут скажаш. Толькі вось такая альтэрнатыўнасьць — яшчэ не падстава, каб варта было слухаць бяздарны кіч беспрацоўных маргіналаў.

**Зьніч.** Адзін зь вялікіх мітаў беларускага музычнага *ghetto*. Пра яго кажуць:

1. *„Зьнічы" — паганцы.* Магчыма, нават самі яны так лічаць. Але ці гэтага дастаткова? Пазнаёміўшыся зь інфантыльна-сцкай лірыкай Алеся Таболіча, мы неяк не адчулі, каб у лідара гурта быў нейкі адпаведны паганству сьветагляд. Падазрэньні ў тым, што гэтыя паганцы — самазваныя, толькі пацьвердзіліся, калі мы пагарталі „тэарэтычны язычніцка-музычны часопіс „Сотвар". Магчыма, што-небудзь мы зь яго даведаліся пра тэзаўрус крывіцкага Космасу? Ды не. Усё „паганства" там зводзіцца да прасьцецкай схемкі разьмеркаваньня пасадаў паміж чужынскімі багамі. Дзе хто ў беларускім фальклёры бачыў тых сварогаў, родаў, пераплутаў, хорсаў ды сімарглаў? Відавочна, што ў хатняй бібліятэцы ў гэтых „паганцаў" няма збораў хаця б якіх беларускіх казак. Так што паганцамі іх няхай лічаць надта ўражлівыя асобы тыпу С.Пульшы, які так пісаў у „Беларускай Маладзёжнай" пра часопіс „Сотвар": „выдатная распрацоўка язычніцкіх ідэй на Беларусі...". Каб нешта распрацоўваць, трэба перш самому добра павучыцца. А калі б яшчэ паспрабавалі пагаварыць з Таболічам пра некаторых персанажаў валачобнай традыцыі... Лепш ня будзем пра сумнае.

2. *„Зьніч" — гурт нацыянальны.* Зноў жа, магчыма, самі ўдзельнікі гурта і іхныя малалетнія прыхільніцы ў гэтым шчыра ўпэўненыя. Як па-нашаму, дык зьяўленьне на апазыцыйных мітынгах, рэгулярнае наведваньне сядзібы БНФ і беларуская мова, сьціснутая да адвечнага „менавіта", яшчэ ня робяць з Таболіча харызматычнага героя. А яшчэ прыгадаем (для тых, хто ня ведае), што наш герой пэўны час таму актыўна намагаўся стаць сябрам РНЕ (інфармацыя — зь першых рук). Адзінае, што яго спыніла — патрабаваньне пастрыгчы патлы, што пазбавіла б яго культавага іміджу.

А вось яшчэ прыклад „нацыянальнасьці". Калісьці гурт быў сярод удзельнікаў вышменаванай акцыі „Раздавім...". Эмблемай акцыі была выява чалавека, які выкідае ў сьметніцу свастыку. Натуральна, што ад „прагрэсістаў"-арганізатараў акцыі не дачакаесься павагі да нацыянальных сьвятыняў, але ж якім чынам там маглі ўдзельнічаць тыя, хто абвяшчаюць сябе паганцамі, а значыць, павінны з пашанай ставіцца да сваіх сакральных старажытных сымбаляў? Дарэчы, варыяцыі салярнага арнамэнту, скрадзенага Таболічам, выкарыстоўваюцца ў часопісе „Сотвар".



3. *Удзельнікі „Зьніча" — музыкі.* Музычны лад нашых экстрэмістых-мэталістых выглядае аднастайным, часам — непрыхаваны плягіят. Сьпевы неарыгінальныя, часам недарэчныя. Канстатуем поўную адсутнасьць творчага пошуку. На альбоме „Дух зямлі" праўда, была спроба выратаваць становішча ўдзелам новай салісткі зь неблагім голасам. Дарэчы, так і засталося няявысьветленым, што ж робіць на сцэне „галоўны жрэц", акрамя таго, што выдае з вантробы пачварныя гукі. *I wanna be a pagan...*

**NRM.** Магчыма, адзіны гурт, які можна ўсур'ёз успрымаць. Удзельнікі — вэтэраны беларускага року — ведаюць, што і для каго ствараюць. Іхная музыка — вольная творчасьць, вершы — шчырасьць думак. Ці гэтага дастаткова нам у нашай рэчаіснасьці? Думаецца, што цяпер патрэбныя ня мроі, а ідэі, цяпер недастаткова быць музыкам — трэба быць моладзевым лідэрам. Але моцы на гэта ў NRM няма. З гэтага гурта мог бы атрымацца авангард контаркультурнага супраціву, накшталт расейскага „Гр.Об", але пакуль адзінае, на што здатны Лявон Вольскі і К°, — гэта расказваць па БТ, якіх памераў сабачак ён прымроіў... Мы думаем, што рок — гэта ня тое самае, што бруд, сьцёб і алькагалізм. Хто думае інача, няхай той іх і слухае.

*Працяг будзе.*

---

**Рэдакцыя газэты *Слова Нацыі* зьвяртаецца да чытачоў з прапановаю ўзяць чынны ўдзел у тварэньні нашага выданьня. Вашыя думкі й зычэньні, водгукі і нататкі будуць з удзячнасьцю разгледжаныя і ўзятыя пад увагу.**

**Свае допісы дасылайце на адрас:**
**220086, Менск, а/с 121**
**альбо <slova@crosswinds.net>.**

**Хто хоча надзейна атрымліваць газэту, той няхай дашле на гэты ж адрас пісьмовую замову з пазначэньнем свайго зваротнага адрасу й імя ды абгрунтаваньнем сваёй патрэбы ў нашым выданьні.**

Чытайце ў наступных выпусках *Слова Нацыі*:

- ***Вера нашых продкаў***
- ***Генная памяць нацыі***
- ***Балцкае пытаньне***
- ***Нашыя Сьвяты***
- ***Маладое адраджэньне сядзіць на чамаданах***
- ***Сіёнскія мудрацы сяньня: хто пісаў канстытуцыю для Лукашэнкі?***

Ці павінен аўтарытэт улады залежыць ад пэрсаналіяў? Лукашэнкі прыходзяць і сыходзяць, але ж як нам ставіцца да ўлады сёньня і заўтра? У наступным нумары чытайце:

***Стаўленьне да ўлады: заўтра пачынаецца ўжо цяпер.***

Запрашаем чытачоў да абмеркаваньня гэтай тэмы.

Наклад 299 ас. 220086, Менск, а/с 121 slova@crosswinds.net